31 ЖНІЎНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№98 (629) КОШТ СВАБОДНЫ




## ОРГАНИЗОВАННАЯ ПАРТИЙНАЯ ГРУППИРОВКА

## «Ціхі час» на працоўным месцы

Мікола ВАЙТОВІЧ

Заўтра работніцы сумеснага галандска-беларускага прадпрыемства «Альформа» збіраюцца абвясціць бестэрміновую галадоўку прама на працоўным месцы. Яны патрабуюць пагашэння запазычанасці па заработнай плаце.

На прадпрыемстве «Альформа» працуюць каля 500 жанчын. Яны ачышчаюць крэветкі, якія ў замарожаным выглядзе пастаўляюцца з Галандыі. Работа выконваецца ўручную, часта жанчыны абмарожваюць пальцы. Працуюць яны ў дзве змены. «Альформа» лічыцца непрэстыжным прадпрыемствам. Сюды ідуць беспрацоўныя, малазабяспечаныя. Заробкі на прадпрыемстве ўвесь час затрымліваюць. Месяц таму жанчыны «Альформы» вымушаныя былі страйкаваць, а цяпер распачнуць галадоўку. Многім работніцам сумеснага прадпрыемства зарплата не выплачаная яшчэ за ліпень. Жанчыны сцвярджаюць, што заробкі ім затрымліваюцца па надуманых прычынах. Стаміўшыся змагацца з адміністрацыяй, яны прыйдуць на працу са спальнымі мяшкамі і будуць чакаць грошай на рабочым месцы. ■

ПОСТФАКТУМ

## Да двух гадоў дадалі 20 мільярдаў

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Кіраўскі раённы суд нарэшце вырашыў, колькі грошай вінны Васіль Старавойтаў калгасу «Рассвет». Страты, нанесеныя двойчы героем славутай гаспадарсці, ацэненыя ў 20 мільярдаў рублёў. Па столькі ж павінны заплаціць «Рассвету» і былыя кіраўнікі падраздзяленняў У.Яўстратаў і А.Шапавалаў, якія былі асуджаныя разам з Васілём Старавойтавым.

Нагадаем, экс-старшыня «Рассвета» ў траўні гэтага года быў прызнаны вінаватым у шэрагу эканамічных злачынстваў і атрымаў два гады турмы. Ён цяпер адбывае пакаранне ў аршанскай калоніі, адкуль выйдзе ў лістападзе. Ці хопіць у Старавойтава грошай, каб пакрыць зыск да яго гаспадаркі, пакуль невядома. У спіс апісаная маёмасці былога старшыні патрапілі асабістыя трактар «Беларусь», ацэнены ў 2 мільярды, мэбля, бібліятэка, грошы на рахунку, аднак усё роўна гэтых сродкаў можа не хапіць, каб задаволіць апетыт гаспадаркі. Пра гэта кажуць родныя Васіля Старавойтава. Яны сцвярджаюць, што былы старшыня найбагацейшай калісьці гаспадаркі зараз фактычна жабрак. Сама сям'я ледзь зводзіць канцы з канцамі, а яшчэ трэба неяк падсілкоўваць вязня. Па звестках, нават такая справа, як перадача Старавойтаву ў турму масла, аказалася праблемай. Па-першае, у Кіраўскім раёне зараз масла прадаюць па картках, а Старавойтава ў спісах спажыўцоў не аказалася. Падругое, пакупка масла на рынку зрабіла немалую дзірку ў сямейным бюджэце. Не дзіва, што рашэнне суда наконт 20 мільярдаў родныя Старавойтава ўспрынялі як катастрофу. ■

# Президент или заложник?

## Семен ШАРЕЦКИЙ называет себя «заложником Конституции» и планирует назначить параллельное правительство

Рыгор БУЯН

**27 августа в Вильнюсе появился на свет документ — «Обращение к белорусскому народу, всем белорусам мира, парламентам и правительствам демократических стран». Это обращение подписали председатель Рады БНР Ивонка Сурвила, бывшие руководители Верховного Совета Станислав Шушкевич и Мечислав Гриб, а также президент ЗБС «Бацькаўшчына» Радим Горецкий. Подписанты обращения констатировали переход президентских полномочий к спикеру Семену Шарецкому и объявили о скором создании оппозиционного правительства.**

**НАВІНАМ удалось связаться в Вильнюсе с Семеном Шарецким. Мы попытались выяснить у Семена Георгиевича, давал ли он полномочия подписантам распоряжаться своей политической судьбой. Стоит добавить, что на момент интервью редакция еще не располагала текстом «Обращения...».**

***— Семен Георгиевич, хотелось бы узнать Ваше мнение о подписанном 27 августа документе.***

— Так вы бы взяли да позвонили Шушкевичу. Он подписывал этот документ, он мог бы его и прокомментировать.

***— Хотелось бы услышать все-таки Ваше мнение... Насколько правомерны действия подписантов и согласовывали ли это с Вами?***

— Видите ли, я, как говорят, заложник Конституции. И все, что Конституция требует, я должен делать.

***— В чем суть подписанного документа?***

— Трое подписантов обратились к народу Беларуси, белорусам всего мира, обратились к правительствам и парламентам всех стран с тем, что после 20 июля власть, которая насильственно продолжает удерживать бразды правления, является нелегитимной.

***— Вы не подписали «Обращение»...***

— Да не могу я сам подписывать! Вы, журналисты, хоть брали Конституцию в руки? Разве там требуется «обращение»? Пункт 105-й прописывает: как только образовывается вакантность «пасады Прэзідэнта, паўнамоцтвы Прэзідэнта пераходзяць да Старшыні Вярхоўнага Савета». Говорят, нас не признают. Не признают того, кто вне закона. А законную власть признают, как в свое время признали Верховный Совет единственным законодательным и представительным органом Республики Беларусь. Так и тут будет — я в этом уверен.

***— Вы берете на себя исполнение обязанностей Президента?***

— Я беру?! Полномочия перешли ко мне...

***— Семен Георгиевич, каким будет Ваш первый шаг в качестве и.о.Президента?***

— Мы еще и еще раз говорим: давайте сядем за стол переговоров. Лукашенко же не хочет разговаривать!

***— И что делать в такой ситуации?***

— Мы будем идти дальше по Конституции. Будет назначено параллельное правительство. Законное.



Фота Ул. ШЛАПАКА

***— Рассматривалась ли уже конкретная кандидатура на пост премьер-министра? В кулуарах идут разговоры, что пост премьера предлагается Михаилу Чигирю.***

— Пока нет. Кандидатура премьера ведь согласовывается с Верховным Советом — и мы нарушать Конституцию не будем. А сессии пока не было.

***— Насколько успешным Вам видится ход подготовки к переговорному процессу с исполнительной властью?***

— Мы все время говорим о готовности к переговорам. Но мы ждем мало-мальски шагов и от оппонентов. А где они, шаги эти? Продлен срок заключения Чигирю, начался этот бессовестный суд над Климовым, Леоновым, был посажен Щукин. Ни на одну секунду оппозиции не дают доступа к электронным СМИ...

***— Семен Георгиевич, Вы неоднократно заявляли, что не собираетесь просить политического убежища в Литве...***

— А как же я могу просить убежища?! Я же — Председатель Верховного Совета!

***— Многие читатели интересуются: когда Вас ждать обратно?***

— А что, так сильно хотят, чтобы меня посадили?

***— Нет, естественно.***

— Тогда в чем же дело? Неужели непонятно, что мой приезд сейчас — это означало бы пойти искать камеру вместе с Чигирем. ■

## КАМЕНТАР НАВІНАЎ

Телодвижения вокруг президентских полномочий продолжаются. С тех пор, как наступил день 21 июля и Александр Лукашенко формально перестал быть легитимным руководителем, в обществе сформировалось ожидание того, что спикер Верховного Совета Семен Георгиевич Шарецкий обязательно должен что-то подписать, чтобы стать и.о. президента. Всякий раз, когда приходили вести или заявления из вильнюсской квартиры Шарецкого, журналисты задавали вопрос: так он уже назначил себя президентом или нет?

На самом деле Семен Георгиевич прав — процедура перехода полномочий в Конституции не прописана. Они, эти самые полномочия, автоматически переходят к Председателю Верховного Совета. В таком случае, если спикер принимает эти обстоятельства, то уже с 21 июля все свои заявления и решения Шарецкий должен подписывать не иначе как «и.о.Президента Республики Беларусь». Однако этого не произошло — он по-прежнему остается руководителем парламента.

С другой стороны, непонятно, какое отношение ко всему этому имеют лица, подписавшие «Обращение...»? Все они, безусловно, уважаемые люди, но, увы, не имеющие отношения к распределению каких-либо государственных постов и полномочий. Более того, как выяснилось, сам Семен Георгиевич не озабочен оформлением неких документов, возводящих его в должность и.о. главы государства.

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **У некаторых гарадах Сербіі зноў адбыліся дэманстрацыі з патрабаваннем адстаўкі прэзідэнта Югаславіі Мілошавіча.** Акцыі пратэсту былі арганізаваныя студэнцкім саюзам, а таксама апазіцыйным аб'яднаннем «Альянс за перамены», адным з лідэраў якога з'яўляецца старшыня Дэмакратычнай партыі Зоран Джынджыч. На 21 верасня ў Бялградзе запланаваная масавая дэманстрацыя супраць палітыкі прэзідэнта Мілошавіча.

■ **Канфлікту вакол размяшчэння расійскіх міратворцаў у горадзе Арахавац на паўночным захадзе Косава не бачна канца.** Чарговы раўнд перамоваў паміж жыхарамі Арахаваца і прадстаўнікамі кантынгенту КФОР скончыўся безвынікова. Косаўскія албанцы працягваюць перашкаджаць размяшчэнню расійскіх міратворцаў у гэтым горадзе.

■ **Парламент Турцыі прызначыў шасцімесячны тэрмін амністыі для паўстанцаў-курдаў, якія не ўдзельнічалі непасрэдна ў баявых дзеяннях.** У сераду байцы Курдскай рабочай партыі заявілі, што яны пачалі адыход з тэрыторыі Турцыі.

■ **Канцлер Германіі Герхард Шродэр абвявіў, што адмовіўся даць інтэрв'ю тэлеканалу, які збіраецца паказаць сатырычны серыял пад назвай «Ну, як я выглядаю, Дорыс?».** Шродэр выказаў незадавальненне тым, што прыватны нямецкі канал «РТЛ» намераны дэманстраваць серыял аб жыцці нямецкага канцлера і яго жонкі, былой журналісткі Дорыс Шродэр-Копф. Сваю згоду на інтэрв'ю ён дасць толькі пасля таго, як тэлеканал пачне «гаварыць аб палітыцы сур'ёзна».

наша Свабода

НАДВОР'Е




**31 жніўня** па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў, вецер няўстойлівы, 3—8 м/сек. У наступныя двое сутак, 1 і 2 верасня, чакаецца пераменная воблачнасць, на поўдні рэспублікі, а ўначы 1 верасня і ў заходніх раёнах — дажджы, вецер усходні, 6—11 м/сек. Тэмпература паветра ўначы 7—12, удзень — 16—21.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**



**490 000**

## АЎТОРАК З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ



### Цяжкая прафесія

Наша гісторыя народнай асветы не ведае такога «залатога» часу, калі б дзяржава ставілася да настаўніка з павагай. Заўжды настаўнік быў асобай падкантрольнай і не надта забяспечанай заробкам. Пра сённяшні дзень і казаць не трэба — як і большыня народа, настаўніцтва стаіць на мяжы выжывання. І таму варта адзначыць, што сваю асветніцкую працу настаўнік выконвае не дзеля грошай, а з любові да прафесіі.

Гэты навучальны год будзе незвычайным. Знак надыходу 3-га тысячагоддзя ляжа на ўсе ўрокі і на настрой. Напярэдадні 1 верасня, калі і дзеці, і настаўнікі рыхтуюцца да сустрэчы, мне хочацца пасачуваць настаўнікам беларускай мовы і гісторыі. У дадатак да агульных для настаўніцтва цяжкасцяў гэтыя прадметнікі мусяць штодзённа вырашаць пытанне праўды. Беларуская мова пастаўленая ў нас у непаважанае становішча. Прыкладам, у Расіі рускі настаўнік мовы не думае, як даказваць дзецям, што трэба любіць родную мову. Яна родная, і на ёй выкладаюцца ўсе прадметы. Іншай няма. Наш настаўнік вядзе барацьбу за выжыванне галоўнага духоўнага набытку народа. Цяжка знайсці пераканаўчыя словы для дзяцей, калі бачаць знявагу да беларускай мовы ўсюды — ад кіраўніцтва дзяржавай да тэлебачання. Тое ж датычыць і настаўнікаў гісторыі Беларусі. Расійскі настаўнік рускай гісторыі можа ўзнёсла гаварыць пра дзяржаўнасць Расіі, яе славу, яе імперскую моц. Пра Беларусь расійскі настаўнік узгадвае мімаходзь. Наш настаўнік гісторыі павінен падаваць інтэрпрэтацыі вызваленасці Беларусі Расіяй, наўмысна хлусіць, абыходзячы ўсе непрыемныя для сённяшняй ідэалогіі факты. І наадварот, надаваць вагу таму, што не мела дачынення да нашай дзейнасці. Настаўнік гісторыі павінен тлумачыць дзецям тое, што і сам не ў стане зразумець: чаму саюз Беларусі з Расіяй — святое? Чаму Беларусь не можа жыць самастойна, як Венгрыя ці Чэхія? Чаму сённяшняе кіраўніцтва так прагне агульных наддзяржаўных пасадаў? Гледзячы ў пытлівыя вочы дзяцей, цяжка будзе настаўніку знаходзіць адказы, якія захаваюць настаўніцкае пачуццё самапавагі.

Быць настаўнікам цяжка ўсюды, быць настаўнікам на Беларусі — цяжка ўдвая. У гэтым стагоддзі гэты цяжар не паменшае, у наступным — магчыма.

## Рок-канцэрт скончыўся затрыманнямі

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ



Фота «БМА GROUP»

Беларуская музыка гучала са сцэны ў Маладзечне

Пятнічная рок-акцыя «Моладзь за Беларусь», якая праводзілася ў Маладзечне Беларускай Музычнай Альтэрнатывай, абярнулася скандалам, справакаваным мясцовымі міліцыянтамі.

Непрыемнасці пачаліся яшчэ да пачатку канцэрта. Гарвыканкам скараціў час праведзення акцыі на 2 гадзіны, і замест запланаванай 21-ай, музыкі мусілі сысці са сцэны ў 19 гадзінаў. Як высветлілася пазней, а палове восьмай пляцоўку аддавалі мясцовай філіі БПСМ, якая праводзіла там дыскатэку.

Прыкладна праз гадзіну пасля пачатку канцэрта міліцыянты пачалі затрымліваць маладых аматараў рок-музыкі. Усяго затрымалі каля 30 чалавек, сярод якіх былі кіраўнік БМА Віталь Супрановіч і старшыня маладзечанскага клуба «Грунвальд» Сяргей Юркевіч.

Былі сярод затрыманых і п'яныя падлеткі, але нязначная колькасць. На той жа БПСМаўскай дыскатэцы іх было значна больш, але там іх ніхто не чапаў.

З усіх затрыманых узялі тлумачальныя запіскі, некаторых на месцы аштрафавалі за «парушэнне грамадскага парадку на канцэрце». У райаддзеле міліцыі намеснік начальніка мясцовага РАУС спадар Паплёўка называў усіх прысутных на канцэрце дэбіламі і патрабаваў прызнацца, каму з чыноўнікаў гарвыканкама кіраўнікі БМА далі хабар за дазвол рок-канцэрта.

Аштрафавалі міліцыянты і саліста гурта «Happy Face» за тое, што ён са сцэны выказаў сваё адносіны да дыктатуры ў выглядзе выкінутага сярэдняга пальца рукі. БМА і Беларускі Хельсінкскі камітэт прынялі заявы, якія асуджаюць дзеянні міліцыі і кваліфікуюць іх як прамое парушэнне правоў і свабодаў моладзі. ■

ВІЗІТ

### Кучма да Лукашэнкі ўжо не едзе

Юрый АЛЯКСЕЕЎ

Візіт прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы ў Беларусь пераносіцца на няпэўны тэрмін. Як паведамлялася, яго сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам павінна была адбыцца на пачатку верасня ў Брэсце. Паводле некаторых звестак, — 1-2 верасня.

У пасольстве Украіны ў Мінску пацвердзілі, што бліжэйшымі днямі візіт Кучмы ў Беларусь не адбудзецца. Супрацоўнікі пасольства паведамілі: пакуль што пытанні падрыхтоўкі візіту ўкраінскага прэзідэнта не ўзнімаюцца. Тэрміны яго цяпер невядомыя. ■

ГАСПАДАРКА

### Збожжа не хапае

БелаПАН

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання прапануе ўраду знізіць аб'ёмы дзяржаўнай закупкі збожжа. Як паведамляюць афіцыйныя крыніцы, гэтая прапанова выкліканая, у першую чаргу, тым, што сёлета пры запланаваным ураджаі ў 6 мільёнаў тон збожжа ўдалося сабраць толькі каля 4 мільёнаў. Згодна ж з наяўным планам, у калгасах і саўгасах краіны планавалася закупіць 1 мільён 550 тысяч тон харчовага і фуражнага збожжа. Зараз гэты план выкананы менш чым на палову. З-за гэтага міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання прапануе ўраду знізіць аб'ёмы дзяржаўных закупак да 1 мільёна тон. ■

ФОТАФАКТ



Фота REX/ProMedia

27 августа в Минске прошел митинг в поддержку интеграционных устремлений Александра Лукашенко

ПАЛІТЫЧНАЯ АФІША

### Мітынг БНФ 8 верасня

Мінскі гарвыканкам разгледзеў заяўку сябраў БНФ «Адраджэньне» на правядзенне шэсця і мітынгу «За свабоду, незалежнасць, правы чалавека», прымеркаваных да Дня беларускай вайсковай славы. Першапачатковы маршрут шэсця быў зменены.

Дазволеныя час і месца збору — каля Опернага тэатра 8 верасня ў 17:30. Мітынг і тэатралізаваныя нумары ў парку Я.Купалы з 18:30. ■

ЭКАНОМІКА

## Грошы «памахалі» нам рукой

### За сем месяцаў аб'ём замежных інвестыцыяў у нашую эканоміку знізіўся на 42 працэнты

Сяргей СНЕГІН, БелаПАН

Працягваецца зніжэнне аб'ёму замежных інвестыцыяў у беларускую эканоміку. Паводле звестак з міністэрства фінансаў, па выніках студзеня–ліпеня 1999 года чакалася паступленне ў рэспубліку замежных крэдытаў пад урадавыя гарантыі ў суме 17,5 мільёна долараў ЗША, а прамых замежных інвестыцыяў — 30 мільёнаў долараў. Гэта складае толькі каля 58 працэнтаў да аналагічнага леташняга паказчыка.

Падзенне аб'ёмаў замежных інвестыцый у Беларусь спецыялісты звязваюць з некрэдытаваннем Міжнародным валютным фондам і Сусветным банкам беларускай эканомікі, з праблемамі на ўнутраным валютным рынку краіны, а таксама з наяўнасцю пратэрмінаванай запазычанасці па замежных крэдытах. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

> Я, простите за нескромность, считаю себя человеком спортивным. Для меня спорт не хобби, для меня – это жизнь.
>
> *Александр ЛУКАШЕНКО*
>
> *Газета «Славянский набат», 26 августа 1999г.*

## Грашовая «рэформа»

### Аляксандр Лукашэнка заявіў, што хуткім часам у краіне будзе ўведзены беларускі рубель

БелаПАН

Падчас наведвання 26 жніўня новага аўтавакзала ў Мінску, адказваючы на пытанне журналістаў аб магчымым увядзенні адзінай валюты Расіі і Беларусі, А.Лукашэнка адзначыў, што ён параіў бы насельніцтву не адмаўляцца ад беларускіх «зайчыкаў». Як сказаў кіраўнік краіны, зараз робяцца вельмі значныя крокі па ўмацаванні і канвертацыі беларускага рубля. Больш таго, па словах Лукашэнкі, бліжэйшым часам будзе ўведзены менавіта беларускі рубель, замест разліковага білета, які зараз знаходзіцца ў абароце ў Беларусі. Працэс жа ўвядзення агульнай валюты Беларусі і Расіі, сказаў кіраўнік дзяржавы, будзе расцягнуты на восем-дзесяць гадоў. ■

### Абяцанкі – цацанкі...

Аддзел інфармацыі

Будаўніцтва шасці новых станцыяў сталічнага метро будзе закончанае да вясны 2000 года. Такое абяцанне даў Аляксандру Лукашэнку мэр Мінска Уладзімір Ярмошын падчас наведвання кіраўніком дзяржавы 26 жніўня новага аўтавакзала «Маскоўскі». Было таксама заяўлена, што ў бліжэйшыя год-два завершыцца ўзвядзенне новых будынкаў мінскага чыгуначнага вакзала і Палаца рэспублікі. Магчыма, будзе пабудаваны яшчэ адзін буйны аўтавакзал. ■

### Аршанскія прадпрымальнікі ўзялі «адпачынак»

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Цэлы верасень не будзе працаваць Аршанскі гарадскі рэчавы рынак. Мясцовыя прадпрымальнікі пайшлі на такі крок, патрабуючы адмены нарматыўнага акта №67/159 ад 25 чэрвеня, выдадзенага міністэрствам гандлю і падатковым камітэтам. Гэты акт рэгламентуе спіс дакументаў, якія патрэбна мець прадпрымальніку на месцы працы штодзённа: ад сертыфікатаў якасці да даведак з санэпідэмстанцыі. У той жа Оршы няма ўсіх установаў, якія выдаюць патрэбныя дакументы, і прадпрымальнікі не могуць нармальна працаваць, а толькі займаюцца даставаннем даведак.

Калі меры не будуць прынятыя, страйк працягнецца і ў кастрычніку. ■

ПРАФСАЮЗЫ

### Цэны, зарплата, правы рабочых

Рыгор БУЯН

Пад гэтымі лозунгамі ФПБ мяркуе правесці ў рэспубліцы 30 верасня акцыі пратэсту.

Кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай нарэшце вызначылася з пазіцыяй да прэзідэнцкага дэкрэта «Аб дадатковых мерах па ўдасканаленні працоўных адносінаў, умацаванні працоўнай і выканаўчай дысцыпліны», падпісанага 26 ліпеня. ФПБ вырашыла правесці 30 верасня ў Мінску і абласных цэнтрах акцыі пратэсту супраць наступлення ўраду на правы рабочых. Афіцыйныя прафсаюзы ўрэшце рашыліся на масавы пратэст. А апошняй кропляй стаў менавіта згаданы дэкрэт, асабліва яго палажэнне пра абавязковую кантрактную форму найму работнікаў на ўсіх прадпрыемствах. Трэба адзначыць, што Федэрацыя пайшла па слядах прафсаюза Аўтасельгасмаша (ён уваходзіць у склад ФПБ), які раней абвясціў гатоўнасць арганізаваць масавы пратэст рабочых 16 і 23 верасня.

Кіраўніцтва ФПБ рэкамендавала таксама выказваць пратэст супраць усталявання ўсеагульнай кантрактнай формы найму шляхам збору подпісаў. ■

ЗДАРЭННЕ

### Пажар у цягніку

Мікола ВАЙТОВІЧ

У суботу вечарам на чыгуначнай станцыі Ліпнікі Брэсцкага аддзялення чыгункі адбылося надзвычайнае здарэнне. У пасажырскім цягніку № 660 выбухнуў паліўны бак, ад чаго загарэўся цеплавоз. Ад апёкаў пацярпелі два пасажыры, адзін з іх — жыхар Брэста, а другі мінчук. Абодва ў цяжкім стане цяпер знаходзяцца ў бальніцы. Цеплавоз адбуксіраваны ў Брэст, прычыны выбуху ўдакладняюцца. Рух цягнікоў па чыгунцы быў адноўлены ў ноч 29 жніўня. ■

### Ад рэдакцыі

В предыдущем номере НАВІНАЎ в статье «Самнасам з першай лэдзі ЗША» была допущена ошибка. Известный белорусский адвокат Вера Стремковская работала юристом в Управлении делами президента РБ, но не работала в известной компании «Торгэкспо».

ПАРТЫІ

# Организованная партийная группа

## Можно ли считать Либерально-демократическую партию оппозиционной?

Николай ХАЛЕЗИН

**Подготовка к переговорному процессу между властью и оппозиционными силами набирает обороты, а вопросы о комплектовании делегаций пока остаются без ответов. Один из таких вопросов: почему Либерально-демократическую партию белорусскую руководитель Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ Ханс-Георг Вик признал оппозиционной?**

### Гоп-позиция

Первое упоминание о том, что ЛДПБ примет участие в переговорном процессе на стороне оппозиции, вызвало неоднозначную реакцию в стане демократов. Те, кто в последние годы отслеживал перемещения в белорусском политическом пространстве лидера партии Сергея Гайдукевича, если и могли представить его участие в переговорах, то лишь на стороне власти.

Скорее всего, господин Вик не обладал должной информацией, когда настаивал на участии ЛДПБ в переговорном процессе. Теперь же он оказался в глупом положении, поддерживая присутствие партии Сергея Гайдукевича в переговорной делегации. Возможно, подобная позиция господина Вика объясняется его слабой информированностью, но тогда ответственность за провалы в информационной подготовке КНГ ОБСЕ должна лечь на белорусских сотрудников миссии.

Еще совсем недавно ни одна из политических партий демократической ориентации не хотела даже упоминаться в связи с ЛДПБ. Виной тому отнюдь не поддержка лидером этой партии властных структур Вячеслава Кебича и Александра Лукашенко и даже не дружба с иракским лидером Саддамом Хусейном, а то, что с ЛДПБ связан целый ряд криминальных историй.

### Соколы Гайдукевича

Первая история, когда члены партии либерал-демократов оказались замешанными в уголовном деле, произошла 30 августа 1996 года. В тот день сотрудники Отдела по борьбе с организованной преступностью УВД Мингорисполкома задержали на рынке в Ждановичах трех человек по делу об ограблении. У всех троих были обнаружены партбилеты ЛДПБ.

За несколько дней до этого в милицию с заявлением обратился человек, у которого трое неизвестных на рынке забрали сумку с радиодеталями. По этому факту было возбуждено уголовное дело, а спустя трое суток всех грабителей арестовали. Ими оказались ранее судимый Сергей Кулакович, Александр Янченко и Анатолий Пахомчик. Никто из них не стал отрицать своей принадлежности к либерально-демократической партии. Сергей Гайдукевич направил тогда в следственные органы МВД ходатайство, в котором говорилось следующее: «Своей деятельностью они способствуют достижению программных целей партии, направленных на стабилизацию обстановки в Республике Беларусь...»

Появление членов ЛДПБ на рынке в Ждановичах было отнюдь не случайным. Дело в том, что в апреле 1996 года «Торговый дом «Ждановичи» заключил договор на охрану рынка с Либерально-демократической партией России, а непосредственно сотрудниками службы безопасности рынка стали члены ЛДПБ. Позже руководство рынка расторгло договор с ЛДПР и заключило новый — с охранной фирмой «Маклейн». Но лица в охранной структуре не изменились. Каждый из сотрудников имел в кармане партийный билет ЛДПБ.

Осенью 96-го года в Бресте были арестованы Алексей Левашев и Олег Бардин, граждане России, сотрудники службы безопасности ЛДПБ, в отношении которых было возбуждено уголовное дело по статье «злостное хулиганство». Следствию тогда не удалось доказать еще и факт вымогательства, по которому арестовывали Левашева и Бардина.

В августе 1997 года за вымогательство был арестован еще один сотрудник службы безопасности «Маклейн», член ЛДПБ Наумович. Он был замечен в составе службы безопасности Сергея Гайдукевича на митинге, проводимом либерал-демократами 23 марта того же года.

### Правая рука

24 июля 1997 года в Минске сотрудниками МВД был задержан автомобиль Lexus-300, в котором находился один из руководителей ЛДПБ, «правая рука» Сергея Гайдукевича, Валентин Каретников в компании двух телохранителей. В автомобиле были обнаружены: гладкоствольное ружье, 200 патронов, пистолет Марголина, не стоящий на учете, охотничий нож с полуметровым лезвием и долговые расписки коммерческих фирм.

Задержали Каретникова на основании заявления одного минчанина, который указал, что Каретников завладел его автомобилем мошенническим путем, недоплатив владельцу 10 тысяч долларов. Было возбуждено уголовное дело по фактам мошенничества, хранения огнестрельного оружия и вымогательства. После возбуждения уголовного дела Каретников скрылся от следствия и до сих пор находится в розыске.

По версии МВД, Валентин Каретников возглавляет организованную преступную группу, насчитывающую около 30 «бойцов», и является одним из лидеров преступной среды Беларуси, контролирующим рынок в Ждановичах и ряд коммерческих структур республики. До того, как Каретников скрылся от следствия, он являлся «правой рукой» лидера ЛДПБ и вместе с ним посещал ряд стран, в том числе Ирак.

### Оппозиция в законе

На протяжении последнего года ЛДПБ проводила активную работу по подготовке к проведению референдума о вхождении Беларуси в состав России. Подобную точку зрения не разделяет ни одна из оппозиционных партий, участвующих в переговорном процессе. Власти не решились на проведение очередного плебисцита лишь по одной причине — Александр Лукашенко никому не позволит оторвать от интеграционной инициативы даже клочка сомнительной славы.

То, что партия Сергея Гайдукевича не является оппозиционной, доказывает один маленький, но красноречивый факт. На уже упомянутом митинге ЛДПБ 23 марта 1997 года над проспектом Машерова летал вертолет с прикрепленным к нему огромным флагом либерально-демократической партии.

А в это время на проспекте Скорины милиция орудовала дубинками, избивая представителей оппозиции, вышедших на мирную демонстрацию. В тот день у Геннадия Карпенко, возглавлявшего шествие демократических сил и пострадавшего от милицейских дубинок, случился гипертонический криз. ■



● **Сергей Гайдукевич** в окружении своих соратников 23 марта 1997 года. На фото слева от Гайдукевича — **Валентин Каретников**



● Руководитель Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ **Ханс-Георг Вик**

SOS!

# Заява ЗБМ «Еўрапейскі шлях»

Сённяшні стан шматлікіх помнікаў архітэктуры і археалогіі можна характарызаваць як катастрафічны. У выніку бескантрольнай дзейнасці карыстальнікаў і пры злачыннай бяздзейнасці Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны міністэрства культуры РБ (старшыня сп.Бубноўскі Д.С.) многія помнікі разбураныя ці сур'ёзна пашкоджаныя (Вежа Малога замка і археалагічны пласт Гандлёвага пляца ў Навагрудку, Кальвінскі збор у Заслаўі, Дабравешчанская царква ў Віцебску ды інш.). Цалкам зменёнае архітэктурнае аблічча шматлікіх помнікаў драўлянага дойлідства (у першую чаргу цэркваў).

Асобна стаіць праблема захавання і рэстаўрацыі гістарычнага цэнтра Мінска, дзе, са згоды Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, адбываецца разбурэнне аўтэнтычных старажытных будынкаў XVIII—пачатку XX стст. і пабудова на іх месцы прымітыўных муляжоў, якія не маюць ніякай гістарычнай і мастацкай каштоўнасці. Сучаснай забудовай знішчаецца гістарычны ландшафт і археалагічны пласт Ракаўскага прадмесця, якое ўяўляе значную горадабудаўнічую і мастацкую каштоўнасць. Існуе рэальная небяспека ператварэння Верхняга горада з гісторыка-культурнага цэнтра сталіцы ў закрытую для мінчукоў зону.

Мы з болем адзначаем катастрафічнасць сітуацыі і выказваем сваё абурэнне поўнай абыякавасцю ўладаў да гэтай праблемы. Вельмі спадзяемся на актыўны ўдзел грамадскасці і СМІ ў ратаванні нашай нацыянальнай спадчыны.

**Прэс-служба ЗБМ «Еўрапейскі шлях»**

ДЫЯГНАЗ

## БелБэнц-99



**Александр ПОТУПА**

Вот оно и грохнуло. Экономика страны разъехалась *управляемо и многовекторно*, аки совхозная корова на льду. Пора спасаться. То есть думать надо было раньше, теперь — на рефлексах. Как в популярной песенке: «Я Шура, ребенок нежный, я до пяти считать могу». Или что-то в этом роде.

Урожай зерновых по сравнению с полукебичевским 1994 годом упал не менее чем на треть. И чтобы иметь критический минимум для человеко- и скотокормления, потребно закупить порядка 3-4 миллионов тонн — это около $300 млн. И порядка $200 млн. нужно для топливного обеспечения зимнего сезона. Где взять эти полмиллиарда? А что делать с катастрофически низкими (*ниже колена*) зарплатами и промышленной продукцией, все неохотней покидающей склады?

Снова стать на колени перед *великобратской Россией*, обещая брачные узы и любовь до гроба? Но ей, болезной, не до того. Она сама рада перестрельнуть сколько угодно и у кого угодно, и на кой черт ей прожорливая бесприданница. Ходят слухи, что на Руси не все еще разворовано. И она как раз карабкается на полутарагодовую *выборную карусель*, которая помимо иных функций есть грандиозный воровской бенефис стоимостью в 3-4 годовых белорусских бюджета. Опять же выступления *всеславянского лидера* в защиту друга Милошевича возымели должный отклик, и теперь те десятки миллионов долларов, которые могли бы помочь Беларуси, успешно обслуживают российский контингент в Косово. Слава Богу, что англичане, немцы и прочие NATOвцы по доброте душевной бесплатно охраняют означенный контингент от косоваров, а то пришлось бы и нам тратить последние гроши на спасение братских батальонов. И едва ли не хуже всего — донельзя не ко времени всплыли швейцарские счета *Борисовой Семейки*. И теперь Кремль может в любой момент повернуться к синеокой сестричке неизвестно чем и предъявить кучу счетов. Чего не сделаешь во спасение семейного кошелька!

Сунуться на Запад, откуда сильно несет сытостью и деньгообилием? Хорошо бы, но не поймут, а поймут — еще хуже будет. Запад пять лет посылали куда подальше, и долго еще придется упрашивать, чтоб возвратился и простил.

Остается свой возлюбленный народ с кое-каким запасом «зелени». И, в целях оздоровления экономики, не учинить ли изрядное внутреннее *валютопускание*? Для начала — 100-процентную продажу валюты предприятиями, на кою тему уже готов указ. Все бы неплохо и даже справедливо — за свой выбор народ действительно должен отвечать и жизнью, и кошельком. Да вот беда — тут же лягут экспортеры, и, пожалуй, вся внешняя торговля тоже приляжет отдохнуть. И выяснится, что соответствующее министерство было сокращено крайне своевременно и прозорливо. Не выяснится только одно — что будем кушать? И что делать с миллионными купюрами, за которые осенью будут давать по «баксу» (если не по шее)?

Доуправлялись! Полный, пардон, *бэнц-стабилизец*! Хотя вряд ли. Наш *истинно простонародный и соцрыночный большой бэнц* всегда может стать полнее, глубже и многовекторней. Удачи нам! ■

# Як на тыя імяніны...

**Учора Аляксандр Лукашэнка святкаваў свой дзень нараджэння. Трыццатага жніўня 1954 года ў маленечкай вёсцы Аляксандраўка Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся той, хто пасля быў абраны першым прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.**
**Зараз яму сорак пяць, круглая дата. З гэтай нагоды НАВІНЫ вырашылі зрабіць штосьці кшталту калектыўнай віншавальнай паштоўкі Аляксандру Рыгоравічу.**



## У Вас есть шанс свободно выехать в любую страну

**Валерий ЩУКИН**

45 лет — это возраст выхода на пенсию офицеров в звании майора и подполковника. Вчера, 30 августа 1999 года, Верховный Главнокомандующий Вооруженными Силами Республики Беларусь майор Лукашенко достиг этого предельного возраста состояния на действительной службе для данной категории служилой аристократии.



В чине майора Александр Лукашенко занял в июле 1994 года высшую войсковую должность. Какой-либо информации в открытой печати об изменении количества и величины звезд на его погонах не было. И потому заранее приношу извинения, если вдруг окажется, что за пятилетнюю выслугу в должности «атамана» белорусского войска и блестящие победы над Соединенными Штатами, одержанные Александром Лукашенко в воздухе, Верховный Главнокомандующий России присвоил своему будущему вице-президенту генеральский чин. Ведь в Беларуси присваивать главе государства очередные и внеочередные (как Станиславу Шушкевичу) воинские звания некому.

Поздравляю Александра Лукашенко с достижением пенсионного возраста и неизбежным в связи с этим выходом в отставку. Надеюсь на скорую встречу под бело-красно-белым стягом на уличных политических акциях оппозиции.

Представляю картину: административный судья Центрального района Минска рассматривает дело Александра Лукашенко, привлекаемого к административной ответственности за участие в несанкционированной Виктором Чикиным демонстрации. Пожалуй, в Минске не найдется зала, чтобы вместить всех представителей средств массовой информации, которые прибудут для освещения данного эпохального события. Процесс придется проводить под открытым небом на столичном стадионе «Динамо». А самыми страстными болельщиками, думаю, будут челноки и валютчики.

Уверен, что Александра Лукашенко на следующий день после объявления ему 15-суточного ареста объявят «узником совести», и он получит, наконец, возможность выехать в любую страну мира.

## С семидесятилетием!

**Николай ХАЛЕЗИН**
**зам. главного редактора газеты НАВІНЫ**

Вот вам и стукнуло 45, Александр Григорьевич!

Для политика не так уж и много, но для нашей страны, как выяснилось, возраст критический. Каждый год вашего правления можно смело считать за 5, а, следовательно, получается круглая дата – 70.

Хочу поздравить вас с тем, что до сих пор в стране существуют независимые газеты. Надеюсь, зрелый возраст помогает вам понять, что гибель независимых СМИ повлечет за собой необратимые последствия в вашей личной судьбе. Хотя и без газет ваше будущее зависит от такого безумного количества факторов, что становится не по себе. Ваша карьера может закончиться тем, что люди будут вспоминать эти пять лет конца XX века как самые ужасные годы своей жизни. Таков удел всех вождей, допускающих непоправимые ошибки при руководстве страной.

Желаю вам, чтобы окончание вашего правления и переход власти в нашей стране прошли в рамках закона.



## Шаноўны таварыш Аляксандр Лукашэнка!

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**
**журналіст газеты НАВІНЫ**

З задавальненнем віншую вас з чарговым днём нараджэння. З задавальненнем, бо ўсведамляю, што да вашага ўзросту дабавіўся яшчэ адзін год. Я б зараз яшчэ больш расцёкся віншаваннямі на паперы, калі б спаўнялася вам не 45 а, скажам, 80. Тады б у мяне была досыць пэўная надзея, што хутка гэты навакольны бардак скончыцца.

З 1.866 дзён, што вы ля ўлады, 560 я правёў за кратамі з-за вашае нелюбові да крытыкі. У адрозненне ад вас, сваё дзевятнаццігоддзе і дваццацігадовы юбілей я адзначыў на нарах з кубкам чыфіру ды кавалкам жылістага сала. Вы не разумееце, што гэта, але я ўпэўнены, што ўсё ў вас яшчэ наперадзе. Зараз я вымушаны пісаць гэтае віншаванне праз газету, але калі раптам пазней вы апынецеся там, дзе «неба ў клетку, а сябры ў палоску», я не забуду вас і там. 30 жніўня вы атрымаеце маю віншавальную паштоўку і ўспомніце гэтыя радкі.



З днём нараджэння, Аляксандр Рыгоравіч! ■

**АФІША**

## ТБМ змагаецца за нацыянальны універсітэт

**Рыгор БУЯН**

1 верасня Таварыства беларускай мовы са згоды гарадскіх уладаў ладзіць пікет у абарону ўласнай ініцыятывы па стварэнні Беларускага Нацыянальнага універсітэта, дзе б навучанне цалкам вялося па-беларуску. Акцыя адбудзецца ў Міхайлаўскім скверы Мінска з 16:00 да 18:00. Праз тыдзень, 8 верасня, ТБМ арганізуе мітынг з тымі ж патрабаваннямі: за стварэнне Беларускага Нацыянальнага універсітэта і супраць перайменавання праспекта Францыска Скарыны ў праспект Незалежнасці альбо Перамогі — пра такія намеры ўжо заяўляў прэзідэнт Лукашэнка. Акцыя пройдзе не на плошчы Якуба Коласа, як таго прасіла Таварыства, а на плошчы перад Домам чыгуначніка, з 18 да 19 гадзінаў. Па задумцы арганізатараў, мерапрыемства павінна сабраць каля 500 чалавек. ■

**АКЦЫЯ**

## Дзеці палітзняволеных вярнуліся на радзіму

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

З Польшчы вярнуліся дзеці беларускіх палітзняволеных. Чатыры тыдні яны дзякуючы Хартыі'97, польскай фундацыі SOS і «Газеце Выборчай» адпачывалі ў польскім дзіцячым лагеры ў пасёлку Ровы, што на беразе Балтыйскага мора. Прыезд беларусаў выклікаў вялікую цікавасць польскіх сродкаў масавай інфармацыі. Сюжэты па тэлебачанні круціліся па некалькі разоў. Вялікі рэзананс зрабіў выступ на кабельным канале POLSAT дачкі Юрыя Захаранкі, дзе яна вельмі жорстка выказалася аб існуючым рэжыме. Дзеці добра адпачылі, за што і ўдзячныя спонсарам. ■

**СУЧАСНАЕ МАСТАЦТВА**

## Хорошие люди в «квадрате»

**Татьяна НОВИКОВА**

С 25 августа в Музее современного искусства — выставка по итогам ежегодного пленера Международного объединения «Солнечный квадрат», она продлится до 11 сентября.

Этот пленер впервые проводился в Беларуси, в Острошицком городке. 10 августа туда приехали белорусские и российские художники для двухнедельной совместной работы в жанре станковой живописи. Нужно сказать, что свои полотна выставила только половина из 26 участников.

Куратор пленера Микола Бушчык утверждает, что «Солнечный квадрат» не объединяет художников по направлению в живописи, возрасту, уровню или «художественным убеждениям». Его идея — это товарищество и сотрудничество как таковые. По мнению Миколы, такая свобода, незакрепощенность идеями или уровнем, дает новый взгляд на вещи. О каких-либо иных задачах этой акции, например, служении великой славянской идее, куратор ничего не сказал.

Финансовую помощь «Солнечному квадрату»-99 оказал «брат и друг» художников, бизнесмен Олег Голубев. Он помогает, а именно, оплачивает расходы отдельным авторам, объединениям и гильдиям с 1991 года. Причем называет это своим хобби, и если художники дарят ему приглянувшиеся полотна, то ему это просто приятно. Бизнесмен не считает себя коллекционером или галерейщиком, определенных художественных пристрастий у него нет. Главное, на его взгляд, чтобы живописец был хорошим человеком. ■



**КНІГАРНЯ**

## «Вышчарбіна»

**Мікола РУМ**

**Андрэй Федарэнка. Шчарбаты талер. Мінск, «Юнацтва», 1999 г.**

Ёсць сама менш тры нагоды вылучыць гэтую кніжку сярод навінак беларускай мастацкай літаратуры, што павыходзілі ў дзяржаўных выдавецтвах за апошні час.

Першая — аб'ектыўная. Аповесць «Шчарбаты талер» — узор высакаякаснай прыгодніцкай прозы для тынэйджэраў; твораў такога ўзроўню і кшталту насамрэч з'яўляецца ў нашай літаратуры няшмат. Напружанасць дзеяння, арыгінальнасць і закручанасць сюжэта, трывалая прывязка да нацыянальнай гісторыі, наяўнасць мноства пазнавальных і выхаваўчых элементаў, нарэшце, проста выдатны стыль — усё гэта складае рэальную вартасць кніжкі, міжволі змушаючы ўспомніць творы класіка прыгодніцкага жанру на гістарычную тэматыку Уладзіміра Караткевіча...




Нагода другая — «суб'ектыўная». «Шчарбаты талер» — трэцяя кніжка (і першая ў цвёрдай вокладцы) Андрэя Федарэнкі, які ўжо даўно ўваходзіць у абойму таленавітых і цікавых беларускіх пісьменнікаў. Паміж папярэдняй ягонай кніжкай «Смута» і гэтай — «усяго» шэсць гадоў. Вось і падстава для чарговай справаздачы аб шчодрай дзяржаўнай палітыцы беларускага кнігадрукавання...

І, нарэшце, нагода трэцяя — «пікантная». Параўнаўчы аналіз кніжнага і часопіснага варыянтаў «Шчарбатага талера» (у 1997 годзе аповесць друкавалася ў «Маладосці») няўмольна сведчыць аб адсутнасці ў кніжнай версіі аднаго ладнага фрагмента дыялогу настаўніка з дзецьмі. Чаму так здарылася? — пытанне не з рытарычных. Дастаткова працытаваць толькі фрагмент згаданага фрагмента:

«— Гэта праўда, Барыс Рыгоравіч, што скарб належыць здаваць дзяржаве? — спытала Аксана і пацягнулася да шакаладных цукерак. — Па законе — так, — пацвердзіў настаўнік. Ён паглядзеў на дзяўчынак, нібы раздумваючы, ці можна казаць ім такое. Сказаў: — Іншая справа, а давайце падумаем, у якой дзяржаве мы жывем? У Беларусі? Але з чаго гэта відаць? Хіба ў нас адзінай дзяржаўнай аб'яўлена беларуская мова? Хіба выключна на ёй вядуцца заняткі ў школах, універсітэтах, хіба яе паважае нашае самае высокае кіраўніцтва? Хіба нашыя адвечныя гістарычныя сімвалы — герб «Пагоня» і прыгожы бел-чырвона-белы сцяг — з'яўляюцца сімваламі нашай гэтак званай «незалежнай» дзяржавы?»

...Вось так. Героі аповесці ледзь не прыйшлі да запаветнага скарбу, арыентуючыся мена віта па шчэрбінах, што ў 1812-м рабіў на рубцах талераў паранены французскі салдат. І аповесць, як на тое, гэтаксама аказалася ў выніку з маленькай ды надта яскравай выдавецкай вышчарбінай... ■

## КАМЕНТАР НАВІНАЎ

Канечне, выдавецтва «Юнацтва» паступае кепска, калі дазваляе сабе крыўдзіць майстроў прыгожага слова ідэалагічнымі высечкамі з тэкстаў. Але, па ўспамінах іншых пісьменнікаў, «Юнацтва» заўжды мела схільнасць пазбягаць канфліктаў з уладамі з-за аўтарскіх поглядаў. Андрэй Федарэнка пра гэта не мог не ведаць і таму мог скарыстаць свае аўтарскія правы дзеля абароны дарагіх ягонаму сэрцу радкоў. Калі ён пагадзіўся з вышчарбленнем абзаца пра бел-чырвона-белы сцяг, дык вінаваты сам. Не трэба паступацца прынцыпамі. А калі шчарбіну нанеслі без ягонай згоды, дык А.Федарэнка мае магчымасць звярнуцца ў суд і абараніць свае гонар і годнасць, патрабуючы перавыдання кнігі без скаротаў. Тады ў яго будзе другое выданне «Шчарбатага талера», дапоўненае ці пашыранае, а чытач даведаецца пра нашыя адвечныя сімвалы.

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 591 Нумар падпісаны ў друк 30/08/99 (15:00) Наклад — 16.500